29 лістапада 1994 г.
Аўторак
№ 128(13845)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА







Малюнак В. ДУБОВІКА.



## Кур'ер "ЧЗ"



*У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча з прадстаўнікамі дзіцячых парламентарыяў, якія прыбылі ў Мінск з усіх абласцей рэспублікі.*

Народныя дэпутаты расказалі юным парламентарыям пра работу вышэйшага органа ўлады. Удзельнікі сустрэчы правялі дыскусію аб адукацыі ў беларускай школе.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

### У падтрымку свабоды – маладзёжныя абмены

*Амерыканскі савет па супрацоўніцтву ў галіне адукацыі і вывучэння моў (ACCELS) правёў у Мінску прэзентацыю праграмы маладзёжных абменаў на 1995/96 навучальны год, Ладзяцца паездкі ў рамках "Акта ў падтрымку свабоды".*

Законапраект пад такой назвай быў прыняты два гады таму Кангрэсам ЗША і дапамагае зараз арганізаваць абмены дэлегацыямі з новымі незалежнымі дзяржавамі былога Саюза. У гэтым навучальным годзе ACCELS праводзіць конкурсы сярод школьнікаў і студэнтаў, пераможцы якіх на працягу наступнага года будуць вучыцца разам з амерыканскімі аднагодкамі. Спецыяльны конкурс прадугледжвае таксама стажыроўку за мяжой і маладых беларускіх навукоўцаў гуманітарных спецыяльнасцей. Лепшых прэтэндэнтаў на конкурсах вызначаць прадстаўнікі спецыяльных грамадскіх аб'яднанняў Злучаных Штатаў, а праграму адукацыйнага абмену поўнасцю прафінансуе ўрад ЗША.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### Хто купіць Беларускі Дом друку?

***"Мы вымушаны канстатаваць, што пры цяперашняй эканамічнай сітуацыі ўрад не зможа фінансаваць паліграфію", — сказаў на сустрэчы з журналістамі генеральны дырэктар выдавецтва "Беларускі Дом друку" Барыс Кутавой.***

Яшчэ некалькі гадоў назад абсталяванне, якім карысталіся беларускія паліграфісты, давала магчымасць вырабляць прадукцыю высокай якасці, у тым ліку і тую, якая ідзе на экспарт. Парк друкарскага і пераплётна-брашуровачнага абсталявання катастрафічна старэе. Са 165 друкарскіх афсетных машын, якія знаходзяцца ў эксплуатацыі, у 39 прайшоў ужо тэрмін амартызацыі, а ў 33-х ён заканчваецца ў бліжэйшыя паўтара года. І, як вынік, з кожным годам будзе няўхільна зніжацца і ўзровень друкаваных вырабаў (гэта датычыць як кніжнай прадукцыі, так і перыядычнага друку). А гэта азначае, што рынак, які прыносіць прыбытак, у тым ліку і валюту, будзе незваротна для рэспублікі страчаны.

На думку Барыса Кутавога, у перыяд мяркуемай "вялікай прыватызацыі" значная доля акцый можа апынуцца ў руках пабочных інвестараў, для якіх інтарэсы Беларусі не маюць істотнага значэння. Аднак нельга такі гігант развальваць, а захаваць неабходна. Шанц заняць трывалыя пазіцыі, лічыць галоўны паліграфіст рэспублікі, дасць спецыялізаваны інвестыцыйны фонд "Стабільнасць", які аб'яднаў вядучыя прадпрыемствы галіны. "Укладванне сродкаў у паліграфію заўсёды давала станоўчыя вынікі, — падкрэсліў дырэктар выдавецтва, — важна, каб інвестарамі сталі грамадзяне Беларусі".

### Каб чулі толькі пра дабро

*У сярэдняй школе нумар 13 беларускай сталіцы адбылася ўрачыстая перадача дзесяці слыхавых апаратаў для дзяцей са слабым слыхам.*

Падарунак, устаноўлены паліклінікай школы для дзяцей са слабым слыхам у Варшаве, беларускім школьнікам перадаў лаўрэат ордэна Усмешкі, актыўны дзеяч дабрачынных арганізацый, якія дзейнічаюць на карысць дзецям, Генрых Цюк.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Зноў апаганілі памяць

*Ужо ў каторы раз зганьбілі помнік ахвярам фашызму, што ў вёсцы Цяплухі пад Асіповічамі.*

Варвары сарвалі пліту, на якой выбіты прозвішчы загінуўшых.

**Іван СЦЯПУРА.**

### Самая патрэбная прафесія

*Вучэбны камбінат у Расонах пачаў рыхтаваць спецыялістаў-печнікоў. Праграма разлічана на 192 гадзіны. Праўда, пакуль не хапае выкладчыкаў, але на камбінаце лічаць, што неўзабаве справа наладзіцца.*

Патрэбнасць у спецыялістах гэтай спрадвечнай прафесіі дыктуе сам час. Паліва ў дэфіцыце, на цэнтралізаваныя кацельні надзея малая, вось і ўспомнілі людзі пра печы.

**Уладзімір МІХНО.**

### Згуляем з "зоркамі"?

*Напрыканцы мінулага тыдня рэдакцыяй дзіцячых і юнацкіх праграм Беларускай тэлерадыёкампаніі была запісана новая музычна-пацяшальная гульня "Тры-тры-тры, або Згуляем з Зоркаю".*

Ужо ў сярэдзіне снежня тэлегледачы змогуць убачыць зорак беларускай эстрады ў самым незвычайным ракурсе.

Валерый Разанаў, саліст студыі "Сябры", Анжэліка Ют, салістка дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і група "Палац" па чарзе адказвалі на 13 пытанняў гледачоў, прысутных ў студыі. Але гэта не так проста, бо "зоркі" павінны былі выканаць шэраг складаных умоў. Напрыклад, не смяяцца, не ўсміхацца, "так" і "не" не гаварыць, чырвонае, чорнае і белае не называць, літару "р" не ўспамінаць, адказы не паўтараць і г.д. Моманты конкурсу разбаўляліся музычнымі нумарамі спевакоў і розыгрышам розных прызоў любоўна прадстаўленых фундатарамі праграмы. Імі былі рэкламна-гульнявая газета "Ва-банк", "Аўтарадыё", "Магілан-груп", фірма "Ганна" і прыватнае кафэ "Зара" г.Асіповічы.

Вядзе праграму артыст кіно, артыст студыі "Сябры", былы вядучы ўжо вядомай перадачы "Тэле-бом" Уладзімір Станкевіч. Над праграмай працавалі рэжысёр Віктар Мароз і рэдактар Наталля Шаруба. Аўтары ідэі і сцэнарыя Наталля Кацько і Уладзімір Станкевіч.

На запіс наступнай гульні "Тры-тры-тры альбо Згуляем з Зоркаю" ўжо запрошаны не толькі артысты беларускай эстрады, але і Яўген Кулікоў, Аляксандр Шаганаў, Крысціна.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Курсы валют на 28 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 7942 | 8200 | 5083 | 5284 |
| "Дукат" | 7950 | 8300 | 5100 | 5350 |
| "Белбізнес-банк" | 8000 | 8400 | 5100 | 5400 |

**АФІЦЫЙНА**

# Заява

## Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб эканамічнай палітыцы

Кіраўніцтва краіны з моманту прыходу да ўлады распрацавала і няўхільна выконвае праграму неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу. За кароткі час лібералізаваны знешні гандаль, цэны на большасць тавараў і паслуг (за выключэннем некалькіх пазіцый — хлеб, малако, камунальныя паслугі), ліквідавана датаванне іх з бюджэту, аднаўлена кіруемасць бюджэтам (пры росце яго даходнай часткі ў першыя дзве дэкады лістапада на 179 працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года расходы бюджэту павялічыліся толькі на 102 працэнты, рэзка скарочана крэдытаванне дэфіцыту бюджэту — пры зацверджанай суме крэдытавання 170 млрд. рублёў выдадзена крэдытаў у размеры 50 млрд. рублёў). Беларускі рубель прызнаны нацыянальнай валютай, стаўка рэфінансавання Нацыянальнага банка набліжана да рыначнай, практычна поўнасцю аплачваюцца бягучыя пастаўкі энерганосьбітаў з Расіі, зніжана запазычанасць заходнім крэдыторам, прыпынена накапленне даўгоў, нармалізуецца фінансавая дысцыпліна прадпрыемстваў праз больш жорсткія крэдытаванне і субсідзіраванне, уведзены жорсткія меры па энергазберажэнню.

Трэба, разам з тым, прызнаць, што ў рэфармаванні эканомікі дапушчана адставанне ў стварэнні рыначнага канкурэнтнага асяроддзя, прыватызацыі і дэманапалізацыі вытворчасці, далейшай лібералізацыі знешняга гандлю, увядзенні механізма банкруцтва.

Лібералізацыя эканомікі павінна суправаджацца адэкватнымі мерамі сацыяльнай абароны насельніцтва. Аднак з-за таго, што ў пачатку лістапада лібералізацыя цэн не была скаардынавана з увядзеннем мер сацыяльнай абароны найменш забяспечаных груп насельніцтва, быў рэзка парушаны баланс паміж ростам цэн і даходамі грамадзян. Прэзідэнту прыйшлося прымаць сілай сваёй улады рашэнні аб некаторым рэгуляванні цэн на асобныя прадукты харчавання і сацыяльнай падтрымцы слаёў грамадства, якія найбольш ад гэтага пацярпелі.

У стратэгічным плане гэта ні ў якім разе не азначае адмаўлення ад прынцыпу свабоднага цэнаўтварэння як рыначнай асновы, на якой у краіне праводзяцца рэформы. Кабінету Міністраў даручана ўкараненне мер сацыяльнай абароны, арыентаванай выключна на найменш забяспечаныя слаі насельніцтва, праз адрасныя выплаты і дапамогі. Гэта дапаможа ужо ў снежні 1994 года вярнуцца да правядзення паслядоўнай палітыкі лібералізацыі цэн у адпаведнасці з раней прынятай праграмай.

Для пераадолення адставання ў асобных накірунках рэфармавання эканомікі мной дадзены адпаведныя даручэнні Кабінету Міністраў, якія забяспечваюць: паскарэнне прыватызацыі і акцыяніравання прадпрыемстваў; рэальную фінансавую падтрымку прадпрымальніцтва і ўвядзенне заяўленчага прынцыпу стварэння прыватных вытворчых прадпрыемстваў; спыненне ўмяшання ў цэнаўтварэнне, за выключэннем цэн на прадукцыю і паслугі натуральных манаполій; змяншэнне долі субсідзіравання кошту камунальных паслуг; навядзенне рэальнай фінансавай дысцыпліны на прадпрыемствах усіх форм уласнасці; стварэнне бюджэтнай сістэмы, якая забяспечвае зніжэнне падатковага прэса на вытворцаў прадукцыі і паслуг, стварэнне ім неабходных стымулаў для развіцця, скарачэнне неэфектыўных затрат з бюджэту; змяншэнне дэфіцыту плацежнага балансу за кошт стымулявання экспарту і скарачэння імпарту, зняцця абмежаванняў у знешнім гандлі; фарміраванне паўнацэннага рынку валют, заахвочванне замежных інвестыцый.

Адзначаныя падыходы ажыццяўлення эканамічнай рэформы ўяўляюць сабой стратэгічныя напрамкі развіцця рэспублікі, якія павінны знайсці сваё далейшае ўвасабленне ў сярэднетэрміновай эканамічнай праграме прэзідэнта і ўрада.

Прэзідэнт і ўрад, робячы неабходныя намаганні па стварэнню ў рамках канстытуцыйных патрабаванняў усяго комплексу прававога і арганізацыйнага забеспячэння праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу і абавязацельстваў перад сусветным эканамічным супольніцтвам, выказваюць упэўненасць у падтрымцы сваёй практычнай дзейнасці ўсімі слаямі беларускага народа, палітычнымі партыямі, грамадскімі рухамі. Мы таксама разлічваем на дапамогу сусветнага эканамічнага супольніцтва, яго фінансавых інстытутаў, урадаў развітых краін і замежных прадпрымальніцкіх колаў у дасягненнях пастаўленых мэт.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

**ПАДПІСКА -95**

### Адчуйце сябе культурным чалавекам...

Мне здаецца, няма такога чалавека, які б не лічыў сябе культурным. Згадзіцеся, калі і існуе ў свеце нешта, у чым добра разбіраюцца ўсе без выключэння, то гэта, безумоўна, культура. Менавіта гэтая акалічнасць і дае мне падставы спадзявацца, што "культурныя" матэрыялы "Чырвонкі" не праходзяць міма кожнага з вас.

"Эстэтычная студыя" і "9х12" – рубрыкі, якія, напэўна, вы ўжо ведаеце. У наступным годзе мы паспрабуем расказваць вам пра самыя цікавыя падзеі ў культурным жыцці Беларусі, у рубрыцы знаёмстваў "9х12" вы зможаце сустрэцца з вядомымі (і, спадзяюся, любімымі) артыстамі, спевакамі, паэтамі, кампазітарамі.

Акрамя таго, традыцыйнай стане і новая рубрыка газеты "Кнігарня", якая дапаможа нашым чытачам зарыентавацца ў бясконцым рознакаляровым кніжным свеце. "Сто артыкулаў з гісторыі Беларусі"– рубрыка, у якой ужо сёння прыхільнікаў не менш, чым у часопіса "Плейбой". Якой ёй быць надалей – вырашаць і вам.

Ну і, безумоўна, "культурны адпачынак". Без яго, як вядома, ні абыходзіцца ні адзін культурны чалавек. А таму мы з задавальненнем штотыдзень будзем прапаноўваць вам анонс найбольш цікавых спектакляў, фільмаў, канцэртаў і іншых мерапрыемстваў.

**Майя ШЭНДРЫК.**
**Рэдактар аддзела культуры і гістарычнай спадчыны.**

### Кошт на паўгоддзе—6000 рублёў.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА** Колькасць камплектаў

на 199 . год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА**

| Кошт | падпіскі | ______рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______рублёў. | | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Супер чэннэл" — "TV-5" — "Уорлднэт"




*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### А студэнты – супраць!

*У Нарвегіі праходзіць рэферэндум аб уступленні ў Еўрапейскае супольніцтва.*

Свой далейшы лёс вырашаюць 4,5 мільёна нарвежцаў. 47 працэнтаў насельніцтва выказаліся перад рэферэндумам супраць уваходу ў ЕС. Паводле апытанняў, асноўнымі праціўнікамі ўваходжання ў супольніцтва з'яўляюцца работнікі рыбнай гаспадаркі, а таксама студэнты і жанчыны.

### Нарада па Босніі

*Паводле прызнання міністра замежных спраў ЗША, вайна ў Босніі фактычна выйшла з-пад кантролю.*

Усе спробы паўплываць на сітуацыю з боку ЗША і ААН з'яўляюцца безвыніковымі. На наступным тыдні ў Бруселі адбудзецца паўторнае пасяджэнне кантактных груп па вырашэнню баснійскага канфлікту.

### Выбух у Баварыі

*На адным з заводаў у Баварыі адбыўся выбух, у выніку чаго загінуў адзін рабочы з Аўстрыі, 13 чалавек атрымалі раненні.*

Каб патушыць пажар, спатрэбіліся 2 гадзіны. Прычына выбуху пакуль невядомая, паліцыя вядзе следства.

### Парламент адкрыты для жанчын

*У Боне адбылося пасяджэнне хрысціянска-дэмакратычнай партыі Германіі.*

На ім разглядалася пытанне аб ролі жанчын у кіраванні краінай. На думку генеральнага сакратара партыі, трэцюю частку будучага парламента павінны прадстаўляць жанчыны. Гельмут Коль падтрымаў гэту прапанову.

### Перадкалядны парад

*У Лондане прайшоў вялікі перадкалядны парад.*

Яго ўдзельнікамі сталі тысячы англічан. Каля 2 тысяч акцёраў з Каралеўскай акадэміі мастацтваў наладзілі прадстаўленне на адной з цэнтральных вуліц горада.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



## БІЗНЕС-КЛАС

### Сустрэча прадпрымальнікаў і прамыслоўцаў

Як стала вядома, 8—9 снежня ў сталіцы рэспублікі сустрэнуцца прамыслоўцы і прадпрымальнікі з Беларусі, Украіны і Расіі. Плануецца абмеркаваць на ёй шэраг пытанняў, звязаных з крызіснай эканамічнай сітуацыяй, што склалася ў трох славянскіх краінах былога СССР. Таксама будуць закрануты і праблемы кантактаў паміж прадпрыемствамі, бо яны ў апошні час сталі менш трывалымі.

### "Усход–Захад–Поўнач–Поўдзень"

у гэтым годзе восень багатая на розныя міжнародныя выстаўкі і мерапрыемствы: "Вандроўнік", "Беларускі дом", "Абутак і адзенне". Яшчэ адна — 8-я міжнародная універсальная выстаўка-кірмаш пад назвай "Усход—Захад—Поўнач—Поўдзень" адчыніла з 23 па 25 лістапада дзверы перад мінскімі гледачамі. Яе арганізатар — Цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва "Цэнтр XXI стагоддзе". У гэтым буйным міжнародным мерапрыемстве прымуць удзел больш як сто фірм з Расіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы і Беларусі.

Асабліва зацікавіў наведвальнікаў спецыялізаваны раздзел для аўтааматараў.

### Канферэнцыя Белстандарта

8-9 снежня Белстандарт сумесна з прадстаўнікамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый праводзіць у сталіцы рэспублікі міжнародную канферэнцыю, прысвечаную пытанням сертыфікацыі. Як мяркуецца, на снежаньскім міжнародным мерапрыемстве з дакладамі выступяць вядомыя спецыялісты з ЗША, Францыі, Фінляндыі, Бельгіі і Беларусі.

Паводле звестак, будзе разгледжаны шэраг пытанняў па тэхнічных бар'ерах у гандлі паміж еўрапейскімі краінамі і ЗША, абмеркаваны тэндэнцыі па правядзенню сертыфікацыі і стандартызацыі тэхнічных сродкаў.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### Рачным шляхам да Херсона

Некалькі дзён таму беларускія рачнікі і калійшчыкі атрымалі прыемную навіну з Херсона. Без страт дастаўленыя караванам рудавозаў калійныя ўгнаенні перагружаны на марское судна замежнага заказчыка.

Вядома ж, хваляваліся нашы пастаўшчыкі ўгнаенняў за іх дастаўку на месца — дарога далёкая, непрадказальнае і асенняе надвор'е. Меркавалася нават, што па дарозе назад суднам прыйдзецца спыніцца на зімоўку дзе-небудзь на ўкраінскай тэрыторыі. Але ўсё абышлося добра — рудавозы вярнуліся ўжо ў родныя порты і сталі на зімовы адстой.

Першы вопыт па дастаўцы беларускіх калійных угнаенняў замежным заказчыкам рачным шляхам стаў гарантам прадаўжэння гэтай работы на працягу будучай навігацыі.

Таццяна СМІРНОВА.

## МЯСЦОВЫ ЧАС

# "Ветразь надзеі" над трэснутай палубай

*Успамінаецца лета пяцігадовай даўнасці. Тады ў Смаргоні, згодна са статусам горада абласнога падпарадкавання, узнік, акрамя раённага, гарадскі аддзел народнай адукацыі. У новага загадчыка галава ішла кругам ад усіх гэтых раздзяленняў і новаўтварэнняў. А тут яшчэ, па штатнаму раскладу, трэба было адкрыць і гарадскі Дом піянераў і школьнікаў.*

*Да гэтага яго функцыі выконваў, як у любым райцэнтры, раённы Дом піянераў, куды, вядома, хадзілі займацца ў гуртках толькі гарадскія школьнікі. Зараз жа, атрымлівалася, усіх іх трэба забраць у гарадскі, у якога няма ні памяшкання, ні кадраў. Забягаючы наперад, скажу, што гэтыя дзве паралелі нейкі час мірна суіснавалі, нават дапамагаючы адзін аднаму, як існуюць у горадзе гарадская і раённая бібліятэкі, два аддзелы культуры...*

Гэтую нябачную спрэчку рассудзіла само жыццё. Былы РДПШ, знаходзячыся ў падначаленні раённага аддзела адукацыі, займаецца зараз "сваімі", сельскімі дзецьмі, стаўшы для іх цэнтрам пазашкольнай работы, або сацыяльна-псіхалагічным, а нованароджаны — Смаргонскім гарадскім Домам творчасці юных. Роўна месяц — з дня афіцыйнага ўтварэння і да прадастаўлення памяшкання таму дому — дзеці, як цяперашнія бастуючыя, збіраліся ў свае гурткі па інтарэсах прама на прышкольных гульнявых пляцоўках. Іх настойлівасць, а больш за ўсё дырэктара Надзеі Карасевай, як быццам мела поспех: атрымалі усё ж памяшканне. Хоць на гэты конт у горадзе таксама не было аднадушнай думкі. Справа ў тым, што гэты невялікі будынак у цэнтры горада, пабудаваны ў свой час для арганізацыі вольнага часу дзяцей жылога мікрараёна сілікатчыкаў, выкарыстоўваўся ўсе гады як база дзіцячага патрыятычнага клуба "Пошук", вядомага далёка за межамі нават рэспублікі. Пасля вымушанага перасялення яго ў будынак раённага Дома піянераў (але гэта не адзіная прычына) "Пошук" яўна прыпыніў сваю работу.

А што ж навасёлы? На здзіўленне многім, работа пайшла, ды яшчэ як! Сёння ў Доме творчасці юных працуе 67 гурткоў. Знайшлі прымяненне сваім талентам каля тысячы школьнікаў. На розных конкурсах і выставах школьнікі зарабілі каля трох дзесяткаў абласных і рэспубліканскіх грамат. Дзве аўтарскія праграмы — "Мяккая цацка" (кіраўнік гуртка Н.Малькова) і "Ручное ткацтва" (Т.Касакоўская) — уключаны ў зборнік дзіцячых праграм вобласці. Ужо праз два гады смаргонцы дзяліліся вопытам з кіраўнікамі аналагічных устаноў Мінскай вобласці, зараз рыхтуюцца прыняць удзельнікаў семінара з Віцебскай і Гродзенскай абласцей. Мінулай восенню дырэктар Дома творчасці выступала на рэспубліканскім семінары як дэлегат ад Гродзеншчыны. Вакальна-інструментальны ансамбль быў удзельнікам конкурсу "Маладыя таленты Гродзеншчыны". Пра гурток беларускай глінянай цацкі тэлеперадача "Крок" зрабіла рэкламны мульцік. Гэтыя сувеніры на рэспубліканскай выставе з задавальненнем набывалі нават італьянцы.

Чаму гэта стала магчыма? Надзея Карасёва расказвае, як яны шукаюць таленавітых, цікаўных дзяцей, як запрашаюць іх у гурткі і потым мэтанакіравана працуюць. Кожны месяц з усіх школ горада арганізуюцца экскурсіі ў Дом творчасці. Дзецям паказваюць усё самае цікавае, зробленае іх равеснікамі, каб ужо да пятага класа кожны мог выбраць для сябе справу па душы. Два гады таму пачаўся эксперымент і з шасцігодкамі, выпускнікамі дзіцячых садкоў. У выніку малыя з задавальненнем працуюць з каляровай паперай, футрам, ставяць міні-лялечныя спектаклі. І як вынік — да 80 працэнтаў гэтых дзяцей засталіся вернымі гэтым заняткам.

Пасля поспеху ўдзельнікаў ВІА прыйшло шмат жадаючых навучыцца іграць на музычных інструментах і спяваць — адкрылі яшчэ адзін такі гурток. Да васьмі гурткоў танцавальных дадалі яшчэ два, да таго ж на базе гэтага гуртка стварылі яшчэ і гурток бальнага танца. З-за адсутнасці базы няма майстэрань, дзе можна было б арганізаваць яшчэ штосьці цікавае. Па гэтай жа прычыне няма і тэхнічных гурткоў, але затое з'явіліся спартыўныя. Два гады таму ўзнік гурток юных турыстаў, які трывала займае прызавыя месцы ў вобласці. Другі год займаюцца дзеці "ушу" і боксам — на базе адной са школ. А дзяўчынкі з задавальненнем наведваюць гурткі маладой гаспадыні "Папялушка", мяккай цацкі, вязання, кройкі і шыцця.

— Мы маглі б і чатыры тысячы дзяцей арганізаваць на штосьці карыснае, і пяць тысяч,— гаворыць Надзея Карасёва,— але ўсё ўпіраецца, як у сцяну, у праблему з памяшканнем. І гэта сапраўды так. Што ўяўляе сабой гэты Дом творчасці? Танцавальная зала, адзіны пакой для заняткаў, метадычны кабінет і кабінет дырэктара (без адзінага акна). У танцавальнай зале плошчай 48 кв.м па нормах павінна адначасова займацца 15 чалавек. На справе ж, нават разбіўшы дзяцей на групы, атрымліваецца ў два разы больш. Вось і займаюцца па чарзе. На заняткі ў гурток кройкі і шыцця прыходзяць сёння 28 чалавек, а сталоў тут памясцілася толькі пяць. У маленькім метадычным кабінеце, дзе працуюць восем супрацоўнікаў, паміж сталамі не праціснуцца. А балетмайстар і акампаніятар адпачываюць паміж заняткамі стоячы. Што датычыць кабінета дырэктара, то яго гаспадыня можа працаваць тут толькі да абеду, а потым таксама аддае яго пад гурткі. І ўявіце, як у гэтым пакоі размяшчаюцца (седзячы на падлозе) 32 удзельнікі двух вакальна-інструментальных ансамбляў. А ўсяго тут займаецца аж 16 гурткоў!

Некалькі разоў санстанцыя горада вымушана была забараняць такія заняткі ў гуртках, не дазваляе яна займацца дзецям і ў выхадныя дні. Але што зробіш? І дзе выйсце?

— У нашым горадзе з насельніцтвам у сорак тысяч чалавек — школьнікаў прыкладна дзевяць тысяч,— працягвае Надзея Карасёва.— І ўсім ім пасля школы няма куды падзецца. Спарткомплекс "Юнацтва", узведзены калісьці метадам "народнай будоўлі", перадалі затым заводу аптычнага станкабудавання. Але зараз і завод перажывае не лепшыя часы, і комплекс развальваецца, і басейн закрылі. Раней шмат гурткоў працавала пры школах горада. Зараз жа ім, перапоўненым, не да гэтага. І нічога не будуецца. Для гуртковай работы вымушаны выкарыстоўваць школьныя прыбудовы, вестыбюлі, нават інтэрнаты. Не выратуе становішча і прадастаўленне нам, як абяцаюць (калі гэта атрымаецца), якога-небудзь філіяла. Па-першае, штатаў на два памяшканні ў нас не хопіць, а, па-другое, у аддаленым мікрараёне цяжка сабраць дзяцей з цэнтра горада.

З праблемай гэтай не адзін год стукаецца Надзея Карасёва ва ўсе высокія кабінеты. І хоць у самым цэнтры горада пастаянна знаходзяцца памяшканні пад офісы фірм, для дзяцей такога выдзеліць не могуць. Гэта тым больш крыўдна, што ў суседніх Ашмянах, напрыклад, з насельніцтвам у тры разы меншым, чым у Смаргоні, знайшлі магчымасць аддаць пад Дом творчасці будынак былога райкома партыі, і цяпер там займаюцца 1360 дзяцей (У Смаргоні, напомнім, менш чым тысяча). І ў Ваўкавыску аддалі дзецям двухпавярховы будынак былога партыйнага камітэта, у Мастах наогул змаглі пабудаваць, нават у маленькай Бераставіцы вырашылі гэту праблему.

Карасёвай жа, не адмаўляючы катэгарычна, гавораць: а што прапануеце вы? І яна прапанавала. Нядаўна два заводскія дзіцячыя садкі былі перададзены на баланс гораду. Садкі гэтыя, як вядома, сёння зусім не перапоўнены. Вось і прапанавала Надзея Карасёва адзін са старых садкоў, дзе няма спальняў, перакамплектаваць, а будынак яго і перадаць Дому творчасці. У гарвыканкаме зноў-такі не сталі спрачацца, але спасаліся на аддзел адукацыі: няхай, маўляў, ён усё гэта вырашае. Не паспела туды Карасёва дайсці, як хуценька пачаў "даўкамплектоўвацца" (уговорамі сем'яў дашкольнікаў) адзін з паўпустых садкоў. А ў аддзеле адукацыі ёй прама сказалі: вы што, хочаце, каб мы, закрыўшы той садок, і педагогаў скарацілі? Не той аўтарытэт, маўляў, зарабляеце ў нашай сістэме адукацыі.

— Вядома, я магу і не хадзіць па гэтых кабінетах, па сутнасці, гэта не мая справа. Але праблема сама ж не вырашыцца. Няхай сёння бязладдзе ў краіне, але трэба глядзець у заўтра, трэба своечасова ўбачыць праблему дзіцячага вольнага часу, праблему вуліцы і падвалаў. Гэта ў цэлым. А колькі мы страчваем цікаўных, таленавітых дзяцей! Калі ў нас пачало нешта атрымлівацца, мы распрацавалі цэлую праграму на шмат гадоў наперад. І ўжо сёння, лічу, у горадзе нашым можна адкрыць школу мастацтваў. А аддзел культуры па сваёй, вядома ж, праграме хоча адкрыць эстэтычны цэнтр. Справа не ў назве, а ў няўзгодненасці дзеянняў. Чым, скажам, не цэнтр мастацтваў наш Дом творчасці сёння, калі дапамагчы? Ужо сёння многія гуртко́уцы хацелі б займацца ў некалькіх гуртках адразу, калі б была такая магчымасць — перайсці проста з аднаго кабінета ў другі. Мы можам забяспечыць такі творчы цыкл мастацтваў — ёсць і кадры, і матэрыял, навучальныя дапаможнікі і праграмы. Але няма дзе.

Калі Дом творчасці сфарміраваўся як ядро сяброў і аднадумцаў — дзяцей і дарослых, аб'явілі конкурс на лепшую яго назву. І атрымаўся "Ветразь надзеі", які вабіць у загадкавае заўтра. Але вось сёння атрымалася асечка. Быццам не прынялі ўсур'ёз гэта дзіцячае судна, якое плыве "па волі хваль". А што можа зрабіць адзін, хоць і моцны, ветразь над — у прамым і пераносным сэнсе — трэснутай палубай? Садзіцца фундамент, даюць трэшчыны сцены цяперашняга Дома творчасці юных, знікаюць надзеі на лепшае памяшканне. Хто ж дапаможа гэтаму "Ветразю"?

Генрых МІНІН.

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ



Звыш ста тысяч дзяцей Беларусі ва ўзросце да трох гадоў атрымаюць экалагічна чыстыя прадукты дзякуючы амерыканскай гуманітарнай акцыі "Надзея-Экспрэс III".

Дзіцячае харчаванне будзе непасрэдна дастаўлена ў 160 дзіцячых бальніц, дамоў дзіцяці і іншыя медыцынскія ўстановы ўсіх рэгіёнаў рэспублікі. Прадукты харчавання атрымаюць дабрачынныя фонды і цэрквы, якія змогуць размеркаваць іх сярод дзяцей-інвалідаў, даставіць у малазабяспечаныя і мнагадзетныя сем'і.

Гэта акцыя ажыццяўляецца дзякуючы Мемарандуму аб разуменні, заключанаму паміж урадам Рэспублікі Беларусь і амерыканскай дабрачыннай арганізацыяй "Сіці Хоўп Інтэрнэшнл".

Вялікую дапамогу ў дастаўцы прадуктаў у нашу рэспубліку аказваюць амерыканскія валанцёры, якія прынялі ўдзел у разгрузцы кантэйнераў з харчаваннем у дзіцячых бальніцах і дамах дзіцяці Мінска.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ.

## КУР'ЕР "ЧЗ"

### Рынак замест стадыёна

*На пляцоўцы недабудаванага стадыёна ў Лідзе адкрыўся рэчавы рынак.*

Ён універсальны: тут можна купіць прыгожае адзенне для дзяцей і дарослых, а таксама шыкоўныя або былыя ў карыстанні легкавыя аўтамабілі. Аднак далёка не ўсе гараджане рады новаму "профілю" няхай недабудаванага, але ўсё ж стадыёна. Цяпер аматарам няма дзе займацца бегам. Ды і надзея людзей на тое, што ў горадзе калі-небудзь з'явіцца "свой" стадыён, малая.

### Першыя наваселлі

*адбыліся ў гарадку Рось (недалёка ад Ваўкавыска), які будуецца на сродкі, выдзеленыя Германіяй для выведзеных адтуль ваеннаслужачых і іх сем'яў.*

Навасёлаў павіншавалі прадстаўнікі будаўнічых арганізацый Беларусі і іншых краін — удзельніц ажыццяўлення праекта. Праўда, з-за банкруцтва германскай і фінскай фірм "Арге беноба" і "Хака" тэрмін здачы гарадка прыйшлося адкласці. Ды і цяпер рана гаварыць аб яго поўнай гатоўнасці. У эксплуатацыю здадзены толькі першыя пяць дамоў, ключы ад астатніх жыхары атрымаюць пазней. На падыходзе — дзіцячы садок і сярэдняя школа. А вось для заканчэння будаўніцтва астатніх аб'ектаў — гандлёвага цэнтра, камбіната бытавога абслугоўвання і бальніцы з паліклінікай — прыйдзецца адшукваць дадатковыя сродкі.

БЕЛІНФАРМ.

## КУР'ЕР "ЧЗ"

### Разлічыліся прастоямі?

*У дзве гадзіны дня заканчваецца цяпер рабочы дзень у механічных майстэрнях саўгаса "Ушацкі".*

Пераход на скарочаны рабочы дзень у гаспадарках Віцебскай вобласці выкліканы тымі ж прычынамі, што і ў прамысловасці, — імкненнем зэканоміць электраэнергію. Калгасы і саўгасы не заплацілі за яе 4 мільярды рублёў і, як усе энергаспажыўцы, папярэджаны аб магчымым адключэнні ад электрасетак.

Які б ні быў вялікі ўрон, механічныя майстэрні, вядома, адключыць можна, але што будзе з жывёлагадоўчымі комплексамі, напрыклад, саўгаса "Гарадоцкі" — першага прэтэндэнта на адключэнне электраэнергіі? Запазычанасць гаспадаркі перавышае 200 мільёнаў рублёў.

### Амаль сенсацыя

*Насуперак думцы аб выміранні глыбінкі колькасць вяселляў ва Ушацкім раёне павялічваецца.*

Сёлета ўжо зарэгістравана 119 пар, што на 21 больш, чым у мінулым годзе. У хуткім часе гэта працэдура будзе больш урачыстай — мясцовы загс справіў днямі наваселле.

БЕЛІНФАРМ.

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з дастачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ: ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

*У адным з нумароў нашай газеты, а менавіта 4 кастрычніка 1994 года, быў надрукаваны артыкул "Супрацьстаянне па–кобрынску", дзе апавядалася аб тым, што кобрынскія ўлады, баючыся не адстаць ад абласнога цэнтра ў справе раздзяржаўлення гарадскога "сацкультбыту," таксама кінуліся прадаваць дзяржмаёмасць. Але першы ўжо адкрыты аўкцыён высвеціў нямала пытанняў. Пэўная частка іх знята з парадку дня. Але нямала кропак над "і" не расстаўлена. Аб гэтым сведчаць і званкі ў рэдакцыю...*

# ГІЛЬЯЦІНА?

На імя народнага дэпутата Вярхоўнага Савета, прадстаўніка прэзідэнта па асобых даручэннях Віктара Кучынскага ад Ларысы Кузікавай з Кобрына паступіла заява. Прыводжу некаторыя вытрымкі: "Паважаны, Віктар Францавіч! Прашу Вас разгледзець пытанне аб маім звальненні з пасады загадчыка Кобрынскага гарадскога аддзела па раздзяржаўленню і прыватызацыі ад 30.09.94 г.

У дзень сесіі — 30.09.94 г., за гадзіну да пачатку сесіі Кобрынскага гарадскога Савета, мяне запрасілі на пазачарговы выканкам, не папярэдзіўшы, што павінна было разглядацца пытанне аб маім звальненні. Старшыня гарсавета Гардзіевіч М.П. паставіў мяне перад фактам аб маім звальненні, спасылаючыся на распараджэнне ад 29.07.94 г. № 207-р аб публікацыі інфармацыйнага паведамлення аб



і аўкцыёне ў газеце "Кобрынскі веснік" і на рашэнне гарадскога Савета ад 24.12.94 г. № 150.

На падставе вышэйназваных дакументаў ён палічыў, што мяне можна звольніць...

Але гэта не прычына майго звальнення. Трэба было кагосьці пакараць, паказаць, што меры прыняты, выканкам адрэагаваў на прадстаўленне Кобрынскай міжраённай пракуратуры. Гэтак з людзьмі не абыходзяцца.

Маё звальненне было патрэбна для справаздачы перад сесіяй аб прынятых мерах".

З журналісцкай практыкі мне вядома нямала фактаў, калі з людзьмі абыходзіліся не па закону, калі прыніжалі іх чалавечую годнасць. Таму ніякага здзіўлення не выклікалі ні зварот да дэпутата Віктара Кучынскага калектыву магазіна "Галантарэя", які напалохаўся застацца без працы, ні заява-скарга Ларысы Кузікавай. "Нямала яшчэ цёмных жэрабяў падкіне нам гэта непрадказальнае жыццё, — думаў я, едучы ў цягніку "Мінск—Брэст", — а колькі наламалі і наламаем яшчэ дроў у эканоміцы. І паспрабуй адшукай у кожным канкрэтным выпадку вінаватых!" Словам, прыватызацыя дзяржмаёмасці і звязаныя з ёй адступленні, парушэнні да белага распалілі атмасферу нават у раённых цэнтрах.

Калі-небудзь гісторыя яшчэ прад'явіць нам, беларусам XX стагоддзя, свой рахунак, узважыць на сваіх шалях усё добрае і ліхое, што дадалі мы ў грамадзянскую скарбонку краіны, што атрымалі ў спадчыну наша эканоміка, у рэшце рэшт, нашы дзеці і ўнукі.

Цяпер цяжка нешта казаць аб прыярытэтах, і не толькі ў эканоміцы рэспублікі, але і ў эканоміцы ўсяго славянскага супольніцтва. Зразумела адно — эканоміка разбурана. Як размыты і ўласны лозунг. "Усё ў імя чалавека, усё для чалавека!" Мы завязлі ў нейкай гістарычнай дрыгве і па волі белавежскіх палітыкаў трымаем у ёй самі сябе да гэтага часу. Хто ж павінен нас выцягнуць адтуль — ці адсюль? Каму аддаць перавагу?

Пад час камандзіроўкі ў Кобрын гэтыя пытанні хвалявалі не толькі мяне, але і многіх мясцовых жыхароў, з якімі давялося гутарыць, выслухоўваць іх маналогі.

"Некаторыя нашы кіраўнікі лічаць, — казаў памочнік-сакратар народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Віктара Кучынскага Аляксей Сушчук, — што трэба пайсці на тое, каб узяць крэдыты ў капіталістаў і такім чынам паправіць фінансавае становішча. А ці не лепей нам — рабочым, сялянам і кіраўнікам — уключыцца ў барацьбу за захаванне гэтых самых мільярдаў, якія вывозяцца з краіны, прадаюцца за бясцэнак, расцягваюцца сёння зладзеямі і ашуканцамі?! Глядзіш, не гэткай вострай была б і праблема сацыяльнага развіцця. Я ўжо не кажу пра выхаваўчыя мэты гэтай барацьбы. Тут ёсць над чым паразважаць".

Сапраўды, паразважаць ёсць над чым. Стаціўшы былыя карані, якія па-жывому былі адрэзаны белавежскай гільяцінай, людзі цяжка ўрастаюць у новую ці ўжо даўно пакінутую глебу, доўга вагаюцца на дрыгвяністым прамежку прыватызацыі паміж туманнымі берагамі, а на сэрцах натуральная настальгія па страчаных каштоўнасцях, зразумелае непрыманне эканамічных, сацыяльных перамен. Адным словам, гэту новую Беларусь з замежнымі інвестыцыямі, акцыяніраваннем гандлёвых прадпрыемстваў, аб'ектаў народнагаспадарчага прызначэння простыя людзі не спяшаюцца ідэалізаваць. Адсюль і канфлікты, спектаклі з продажам праз аўкцыёны гандлёвых кропак. І гэта цалкам зразумела, бо толькі для чалавека, пазбаўленага разумення гонару, гэткія змены лёгкія.

Кобрын, як адзін з транспартных вузлоў Беларусі, прыцягвае прадпрымальнікаў, інвестараў — беларускіх і заходніх, але і крыху палохае апошніх адсутнасцю дакладнай інфармацыі аб надзейнасці партнёраў. Аб гэтым і апавядалася ўжо ў артыкуле П.Сіманава. Сутнасць жа канфліктнай сітуацыі была ў тым, што грамадзянін Германіі, жыхар горада Герцэнберг Белер Хорст Хельмут рашыў выкупіць ва ўласнасць недабудаваны павільён у гарадскім парку імя А.В.Суворава. А калі дакладней, яго прадстаўнік Уколаў выйграў аўкцыён, які адбыўся 29 ліпеня г.г., і Хорст наважыўся ўжо ўнесці за куплю паўмільярда беларускіх "зайчыкаў". Але раптам узніклі спрэчныя пытанні — і справа з разлікамі зацягнулася. Ключавы матыў, які выклікаў абурэнне ў мясцовай грамадскасці, некаторых дэпутатаў у тым, што прыватызатары нібыта пайшлі на здзелку з сумленнем — прадалі недабудаваны аб'ект плошчай у 530 квадратных метраў у гістарычным месцы не тутэйшаму бізнесмену (гэткага багацея наўрад ці адшукаеш у Кобрыне), а замежнаму капіталісту.

Што ж, маральны аспект тут сапраўды прысутнічае. Дай волю "прыватызатарам", дык яны б, відаць, і ваенна-гістарычны музей імя А.В.Суворава прадалі б. Словам, паняцці некаторых кіраўнікоў горада змянілі маштабы, перайшлі межы прыстойнасці, межы дабра і зла. Канечне, людзям уласціва памыляцца (іншы раз нават трагічна!), сумнявацца, шукаць, прыходзіць да нейкай новай веры. І толькі чалавек гонару праходзіць гэты шлях па унутранаму прымусу, звычайна з пакутамі, надрывам, калі гэта тычыцца таго, чаму пакланяўся. Для Аляксея Сушчука парк, як і кожнае дрэўца ў ім, — гэта гонар, гэта боль. Пад час сустрэчы ён шмат чаго расказаў аб падзеях гістарычнай мінуўшчыны, якія прама і ўскосна былі звязаны з паркам імя А.В.Суворава. І не толькі для яго, Аляксея Сушчука, але і для многіх дэпутатаў гарсавета, жыхароў горада парк, аб'екты, якія знаходзяцца на яго тэрыторыі, нешта большае, чым проста месца адпачынку. І, канешне, тут трэба быць надзвычай далікатным. Ды і няма падстаў радавацца таму, што Хорст выкупіў няхай нават недабудаваны аб'ект. Уклаў мільярды. Што,

